НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Філіял «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы»

# *граматычны* СЛОЎНІК *прыметніка займенніка лічэбніка прыслоўя*

*2-е выданне, дапрацаванае*





Мінск
«Беларуская навука»
2013

УДК 811.161.3’367.6’374
ББК 81.2Беи-4
Г76

Укладальнікі:
В. П. Русак, Н. П. Еўсіевіч, Л. П. Кунцэвіч, В. М. Нікалаева

Навуковы рэдактар
доктар філалагічных навук В. П. Русак

Рэцэнзенты:
член-карэспандэнт НАН Беларусі А. М. Булыка,
кандыдат філалагічных навук А. Г. Міхалевіч

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і пры фінансавай падтрымцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі*

**Граматычны** слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя / Нац.
Г76 акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» ; уклад. В. П. Русак [і інш.] ; навук. рэд. В. П. Русак. – 2-е выд., дапрац. – Мінск : Беларус. навука, 2013. – 1135 с.
ISBN 978-985-08-1629-0.

Граматычна-арфаграфічны слоўнік-даведнік адлюстроўвае сучаснае словазмяненне аднайменных часцін мовы, дае поўную парадыгму іх марфалагічных форм. Асноўная інфармацыя аб часцінах мовы ўтрымліваецца ў слоўнікавым артыкуле, які змяшчае адпаведна формы словазмянення прыметніка, займенніка, лічэбніка, формы ступеней параўнання прыслоўя.

Разлічаны на шырокае кола чытачоў: настаўнікаў і вучняў, выкладчыкаў і студэнтаў, усіх, хто карыстаецца беларускай мовай у пісьмовай і вуснай формах.

**УДК 811.161.3’367.6’374**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-08-1629-0**

# ПРАДМОВА

Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя – заключны ў серыі прац, прысвечаных маштабнаму даследаванню змен, якія адбыліся ў беларускай мове на рубяжы XX і XXI стст. Усю патрэбную інфармацыю аб дзеяслове і назоўніку можна атрымаць ў адпаведных слоўніках – «Граматычны слоўнік дзеяслова» (2013) і «Граматычны слоўнік назоўніка» (2013). Граматычна-арфаграфічныя даведнікі знамянальных часцін мовы прадстаўляюць напісанне слоў і іх граматычных форм у адпаведнасці з «Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008).

Навуковая ідэя фундаментальнага выдання, якім кіраваліся б стваральнікі вучэбнай і даведачнай літаратуры для забеспячэння адзінападобнага выкарыстання моўных сродкаў, належыць акадэміку А. І. Падлужнаму. Стварэнне падобнага комплексу прац з’яўляецца адным з самых неабходных мерапрыемстваў па павышэнні культуры мовы і агульнай культуры грамадзян нашай краіны. Унармаванае, аднастайнае выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы ў друку, вучэбным працэсе, справаводстве, дзелавой перапісцы, сродках масавай інфармацыі і г. д. неабходна, паколькі беларуская літаратурная мова з’яўляецца адной з дзяржаўных моў у Рэспубліцы Беларусь.

«Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя» складаецца з чатырох незалежных частак, прысвечаных адпаведным часцінам мовы. Усю патрэбную інфармацыю аб тым ці іншым слове можна знайсці ў адпаведным слоўнікавым артыкуле. Слоўнікавыя артыкулы даюць граматычную характарыстыку прыметніка, займенніка, лічэбніка, поўную парадыгму іх словазмянення. Аўтарамі раздзелаў слоўніка з’яўляюцца В. П. Русак і Н. П. Еўсіевіч («Прыметнік»), Л. П. Кунцэвіч («Займеннік», «Прыслоўе»), В. М. Нікалаева («Лічэбнік»).

Слоўнік разлічаны на шырокае кола чытачоў: настаўнікаў і вучняў, выкладчыкаў і студэнтаў, усіх, хто карыстаецца беларускай мовай у пісьмовай форме.

# ПРЫМЕТНІК

Граматычна-арфаграфічны слоўнік прыметніка – даведачны дапаможнік для ўсіх, хто вядзе актыўную дзелавую і грамадскую дзейнасць, для каго важна ўменне правільна размаўляць і пісаць. Асноўнае прызначэнне слоўніка – адлюстраваць сучаснае словазмяненне прыметніка, падаць парадыгмы яго граматычных форм, паказаць марфалагічныя асаблівасці лексіка-граматычных разрадаў якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў. У аснову рэестра слоўніка пакладзена выданне «Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя» (2009). Выданне дапоўнена новай лексікай, выбранай са «Слоўніка беларускай мовы» (2012).

У слоўнік уключана каля 22 тысяч прыметнікаў, зафіксаваных у названых крыніцах, з поўнай парадыгмай словазмянення, уласцівай канкрэтнаму прыметніку. У слоўнік уключаны простыя прыметнікі тыпу *добры*, *новы*, *зялёны*, *салодкі*, *стальны*, *філасофскі* і складаныя прыметнікі, якія ўзніклі праз злучэнне двух знамянальных слоў тыпу *высакародны*, *бабралавецкі*, *доўгачаканы*, *блакітна-белы*, *будаўніча-архітэктурны*. У слоўніку не прыводзяцца марфалагічныя катэгорыі ступеней параўнання, кароткія формы прыметнікаў. Не ўключаны ў слоўнік нязменныя прыметнікі (нулявога скланення) накшталт *бардо, беж, брута, дэкальтэ, клёш, люкс, максімум, мінімум, нета, пікала, піке, плісэ, хакі, хіндзі*, значэнне прыметы ў якіх праяўляецца сінтаксічна, пры спалучэнні з назоўнікамі: *колер бардо*, *спадніца клёш*, *кофта плісэ*, *касцюм хакі*, *вага нета*, *мова хіндзі*, *гатунак люкс*, *праграма мінімум*.

Прыметнік – часціна мовы, якая абазначае статычную прымету або ўласцівасць рэаліі, абазначанай назоўнікам, і мае залежныя ад яго граматычныя катэгорыі роду, ліку, склону. Згодна з класіфікацыяй па характары называемай прыметы прыметнікі раздзяляюцца на два лексіка-граматычныя разрады – на прыметнікі якасныя, што непасрэдна абазначаюць прымету рэаліі (*зялёная трава*, *цікавая думка*), і адносныя, што выражаюць прымету рэаліі праз супастаўленне з іншай рэаліяй (*птушынае гняздо*, *гарадскі вал*). У склад адносных прыметнікаў уваходзяць прыналежныя, якія выражаюць індывідуальныя адносіны да пэўнай асобы (*бацькава хата*, *вучнёўскі сшытак*). Кожны прыметнік у сучаснай беларускай літаратурнай мове змяняецца па ліках, склонах у адзіночным ліку – па родах. Марфалагічныя катэгорыі роду, ліку і склону прыметнікаў выяўляюцца сінтаксічна і паўтараюць марфалагічныя значэнні катэгорый назоўнікаў, да якіх яны дапасуюцца і з якімі ўтвараюць азначальныя словазлучэнні. Катэгорыя роду прыметнікаў указвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з’яве), які выражаны назоўнікам мужчынскага, жаночага або ніякага роду (*прыгожы хлопец*, *прыгожая дзяўчына*, *прыгожае дзіця*). Катэгорыя роду прадстаўлена радам форм мужчынскага, жаночага і ніякага роду. Катэгорыя ліку прыметнікаў указвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з’яве), які выражаны назоўнікам у форме адзіночнага або множнага ліку (*добры сусед*, *добрыя суседзі*). Катэгорыя ліку прыметнікаў прадстаўлена склонавымі формамі адзіночнага (мужчынскага, жаночага, ніякага роду) і множнага ліку. Катэгорыя склону прыметнікаў указвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з’яве), які выражаны назоўнікам у форме таго ці іншага склону (*малады настаўнік*, *маладога настаўніка*). Катэгорыя склону прыметнікаў прадстаўлена формамі шасці склонаў, кожная з якіх указвае на тое, што дадзеная форма прыметніка з’яўляецца азначэннем да назоўніка ў адпаведным склоне.

Склонавыя формы маюць толькі поўныя прыметнікі. Заўсёды ў поўнай форме ўжываюцца адносныя прыметнікі (*дубовы стол*, *вучнёўскі сшытак*, *учарашні дзень*). У адзіночным ліку склонавыя канчаткі прыметнікаў адрозніваюцца ў залежнасці ад роду (мужчынскага, жаночага ці ніякага), месца націску (на аснове ці на канчатку), а таксама ад характару асновы (на мяккі, цвёрды, зацвярдзелы зычны і на *г, к, х*). Прыметнікі множнага ліку не маюць родавых адрозненняў, склонавыя канчаткі якасных і адносных прыметнікаў усіх трох родаў супадаюць.

Кожная прыметнікавая словаформа раздзяляецца на варыянт асновы і флексію, а кожны прыметнік у сукупнасці ўсіх словаформ яго парадыгмы – на прыметнікавую аснову і набор флексій. У вінавальным склоне адзіночнага і множнага ліку канчаткі прыметнікаў мужчынскага роду зале-

жаць і ад таго, да адушаўлёнага ці неадушаўлёнага назоўніка яны дапасуюцца: *бачу добрага сябра, бачу добры капялюш; бачу добрых сяброў, бачу добрыя капелюшы.*

У адзіночным ліку прыметнікі маюць наступныя канчаткі: у назоўным склоне поўныя прыметнікі мужчынскага роду маюць незалежна ад месца націску пры аснове на цвёрды зычны канчатак *-ы*, на мяккі зычны і на *г, к, х* – *-і* (адпаведна *малы, вялікі*); жаночага – пры аснове на цвёрды, зацвярдзелы і на *г, к, х* – канчатак *-ая*, пры аснове на мяккі – *-яя* (*добрая, высокая, летняя*); ніякага – пры аснове на цвёрды зычны і на *г, к, х* пад націскам – канчатак *-ое*, пры аснове на мяккі – *-ае, -яе* (*маладое, мокрае, лёгкае, сіняе*). Ва ўскосных склонах (акрамя вінавальнага) назіраецца супадзенне форм мужчынскага і ніякага роду (*мокрага снегу, ціхага надвор'я, густога туману, маладога лісця*). У родным склоне прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрды, зацвярдзелы зычны і на *г, к, х* пад націскам маюць канчатак *-ога*, не пад націскам – *-ага*, з асновай на мяккі – *-яга*: *залатога, вострага, летняга.* У давальным склоне такія прыметнікі пад націскам маюць канчатак *-ому*, не пад націскам – *-аму*, з асновай на мяккі – *-яму*: *залатому, востраму, летняму.* У вінавальным склоне прыметнікі мужчынскага роду, якія дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў, маюць канчаткі роднага склону, а якія дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў – назоўнага склону: *сустрэў добрага чалавека, узяў востры нож*; прыметнікі ніякага роду маюць канчаткі назоўнага склону: *выгадаваў добрае дзіця, купіў лёгкае паліто.* У творным і месным склонах прыметнікі мужчынскага і ніякага роду з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны маюць канчатак *-ым*, з асновай на мяккі зычны і на *г, к, х* – *-ім*: *залатым, вострым, летнім, лёгкім.*

Прыметнікі жаночага роду ў родным, давальным, творным і месным склонах з асновай на цвёрды, зацвярдзелы зычны і на *г, к, х* пад націскам маюць канчатак *-ой*, не пад націскам – *-ай*, з асновай на мяккі зычны – *-яй*: *залатой, вострай, летняй*; у вінавальным склоне – *-ую, -юю*: *залатую, вострую, летнюю.* У сучаснай беларускай мове, асабліва ў мастацкай літаратуры, прыметнікі жаночага роду ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі: у родным склоне – *-ой/ое, -ай/ае, -яй/яе*: *залатой/ое, вострай/ае, лёгкай/ае, летняй/яе*; у творным склоне – *-ой/ою, -ай/аю, -яй/яю*: *залатой/ою, вострай/аю, лёгкай/аю, летняй/яю.*

У множным ліку прыметнікі маюць наступныя канчаткі: у назоўным склоне з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны – *-ыя*, з асновай на мяккі зычны і *г, к, х* – *-ія: новыя, дубовыя, сінія, ціхія*; у родным і месным склонах – *-ых, -іх: новых, дубовых, сініх, ціхіх*; у давальным – *-ым, -ім: новым, ціхім*; у вінавальным склоне прыметнікі, якія дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў, маюць канчаткі роднага склону, а тыя, што дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў, маюць канчаткі назоўнага склону: *бачу дарагіх гасцей, купіў дарагія рэчы*; у творным – *-ымі, -імі: новымі, ціхімі.*

Прыналежныя прыметнікі скланяюцца пераважна як поўныя якасныя і адносныя прыметнікі з асновай на цвёрды зычны. Адрозненні назіраюцца толькі ў назоўным і вінавальным склонах. У назоўным склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі мужчынскага роду маюць нулявы канчатак: *сынаў, бабулін*; жаночага – *-а*: *сынава, бабуліна*; ніякага – канчатак *-о* пад націскам, *-а* не пад націскам: *даччынó, сынава, бабуліна.* У вінавальным склоне канчаткі прыметнікаў ніякага роду супадаюць з канчаткамі назоўнага склону, мужчынскага – з канчаткамі назоўнага (калі прыметнік дапасуецца да неадушаўлёнага назоўніка) або роднага (калі дапасуецца да адушаўлёнага назоўніка) склону, прыметнікі жаночага роду маюць канчатак -у: *сынава дзіця, сынава паліто; сынаў касцюм, сынавага сябра; сынаву дачку, сынаву кнігу.*

У назоўным склоне множнага ліку прыналежныя прыметнікі маюць канчатак *-ы* незалежна ад таго, да назоўніка якога роду яны дапасуюцца: *сынавы, бабуліны*, а ў вінавальным – канчаткі назоўнага склону або роднага (калі дапасуюцца да адушаўлёных назоўнікаў): *сынавы сябры, кнігі, дзеці*; *узяў сынавы кнігі, паважаю сынавых сяброў.*

Ва ўсіх іншых склонах канчаткі якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў супадаюць.

Прыналежныя прыметнікі, якія абазначаюць групавую прыналежнасць, ва ўсіх склонах маюць канчаткі поўных прыметнікаў: *воўчы, птушыны, пчаліны, мядзведжы.*

Кароткія формы прыметнікаў выступаюць толькі ў форме назоўнага ці вінавальнага склонаў (*братаў медаль, леснікова ружжо, матчына хата, сястрыну хустку*). Кароткую форму маюць прыналежныя прыметнікі ў назоўным і вінавальны склонах пры неадушаўлёных назоўніках (*дзедаў дом, братаў медаль*) і прыметнікі жаночага і ніякага роду пры адушаўлёных назоўніках (*гэта цётчына сястра, бачыў цётчыну сястру, гэта сестрыно дзіця*). Пры адушаўлёных назоўніках прыналежныя прыметнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне маюць поўную форму (*братавага сябра*). У іншых склонавых формах прыналежныя прыметнікі ўжываюцца толькі ў поўнай форме (*цётчынай сястры, дзедавага дома; цётчынай сястры, дзедаваму дому…*).

У граматычна-арфаграфічным слоўніку загалоўнае слова падаецца ў мужчынскім родзе назоўным склоне і выдзяляецца тлустым шрыфтам, пасля словаформы мужчынскага роду ў круглых дужках прыводзяцца канчаткі прыметнікаў жаночага і ніякага роду, праз касую рысачку / падаюцца варыянтныя канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў родным і творным склонах адзіночнага ліку і ў вінавальным склоне адзіночнага і множнага ліку пры спалучэнні з адушаўлёнымі ці неадушаўлёнымі назоўнікамі: **абагача́льны** (-ая, -ае), *Р* абагача́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абагача́льнаму (-ай, -аму), *В* абагача́льны (-ую, -ае), *Т* абагача́льным (-ай/аю, -ым), *М* абагача́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абагача́льныя, *РМ* абагача́льных, *Д* абагача́льным, *Т* абагача́льнымі; **абвы́клы** (-ая, -ае), *Р* абвы́клага (-ай/ае, -ага), *Д* абвы́кламу (-ай, -аму), *В* абвы́клага/ы (-ую, -ае), *Т* абвы́клым (-ай/аю, -ым), *М* абвы́клым (-ай, -ым); *мн. Н* абвы́клыя, *РМ* абвы́клых, *Д* абвы́клым, *В* абвы́клых/ыя, *Т* абвы́клымі. Пры супадзенні канчаткаў прыметнікаў жаночага і ніякага роду пасля загалоўнага слова ў дужках падаецца адзін агульны для абодвух радоў варыянт канчатку: **бабу́лін** (-а), *Р* бабу́лінага (-ай/ае, -ага), *Д* бабу́лінаму (-ай, -аму), *В* бабу́лінага/ін (-у, -а), *Т* бабу́ліным (-ай/аю, -ым), *М* бабу́ліным (-ай, -ым); *мн. Н* бабу́ліны, *РМ* бабу́ліных, *Д* бабу́ліным, *В* бабу́ліных/ы, *Т* бабу́лінымі; **ба́цькаў** (-ава), *Р* ба́цькавага (-ай/ае,-ага), *Д* ба́цькаваму (-ай, -аму), *В* ба́цькавага/аў (-у, -а), *Т* ба́цькавым (-ай/аю, -ым), *М* ба́цькавым (-ай, -ым); *мн. Н* ба́цькавы, *РМ* ба́цькавых, *Д* ба́цькавым, *В* ба́цькавых/ы, *Т* ба́цькавымі.

Склоны абазначаюцца вялікімі літарамі (*Н Р Д В Т М*), пасля форм адзіночнага ліку паслядоўна прыводзяцца формы множнага ліку (*мн.*). Зорачкай * перад загалоўным словам пазначаюцца словы, якія могуць страчваць сваё агульнае, шырокае значэнне якаснасці і набываюць значэнне прадметнасці: ***адзінокі**, ***вучоны**, ***вядучы**, ***дазорны**, ***знаёмы**, ***падарожны**, ***пасяваючы**, ***прыбліжаны**, ***ранены**, ***спачуваючы**, ***сселены**. Зорачкай * пасля загалоўнага слова ў слоўніку пазначаны словы, якія страчваюць сувязь з дзеяннем, што абазначаецца ў дзеепрыметніку, і могуць ужывацца ў значэнні прыметнікаў: **аблуплены***, **падгарэлы***, **пакрыўлены***, **пешчаны***, **сагнуты***, **смалены***. Зорачкамі * перад загалоўным і пасля загалоўнага слова * пазначаны словы, якія могуць выступаць прыметнікамі, назоўнікамі, дзеепрыметнікамі: ***адстаючы***, ***арыштаваны***, ***галадаючы***, ***дэмабілізаваны***.

Пры падачы склонавых форм найбольшую цяжкасць выклікаюць прыметнікі, што спалучаюцца з назоўнікамі мужчынскага роду, канчаткі якіх у вінавальным склоне залежаць і ад таго, да адушаўлёнага ці неадушаўлёнага назоўніка яны дапасуюцца. Спалучацца як з адушаўлёнымі, так і неадушаўлёнымі назоўнікамі могуць прыналежныя прыметнікі, якія ўтвараюцца толькі ад адушаўлёных назоўнікаў і маюць значэнне індывідуальнай прыналежнасці: *бацькаў капялюш* і *бацькаў сябар, матуліна хустка* і *матуліна дачка.* Пры адушаўлёных назоўніках прыналежныя прыметнікі мужчынскага роду ў вінавальным склоне маюць поўную форму: *братавага сябра*, а прыметнікі жаночага і ніякага роду выступаюць у кароткай форме: *братаву сястру, сестрыно* (*братава*) *дзіця.* Пры неадушаўлёных назоўніках прыналежныя прыметнікі ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку маюць кароткую форму, г. зн. у мужчынскім родзе – нулявы канчатак, у ніякім родзе – *-о/а*, у жаночым родзе – у назоўным склоне канчатак *-а*, у вінавальным склоне канчатак *-у*: *братаў медаль, сестрыно паліто, дзядуліна ружжо, братава кніга, братаву кнігу.* У назоўным склоне адзіночнага ліку прыметнікі ніякага і жаночага роду маюць аднолькавы канчатак *-а*: *бацькава ружжо, бацькава шапка.* Спалучацца як з адушаўлёнымі, так і неадушаўлёнымі назоўнікамі могуць якасныя і адносныя прыметнікі: са значэннем колеру: *белы* (лебедзь, грыб), *залацісты* (фазан, колас), *блакітны* (кіт, небакрай), *чорны* (воран, дым); фізічных уласцівасцей жывых істот і канкрэтных прадметаў, з'яў, працэсаў жыццядзейнасці: *вагонны* (майстар, парк), *нафтавы* (магнат, завод), *тарговы* (работнік, зал); стан чалавека ці жывой істоты і нежывой ці матэрыяльнай прыроды: *гарачы* (чалавек, пясок), *кволы* (хлопчык, парастак), *кульгавы* (дзед, стол); прасторавых і часавых прымет: *далёкі* (родзіч, час), *даўні* (сябар, выпадак), *заакіянскі* (госць, тавар), *лясныя* (насельнікі, ягады), *ранішні* (жаваронак, промень).

Толькі з адушаўлёнымі назоўнікамі спалучаюцца прыметнікі, якія абазначаюць знешнія прыметы людзей, якасці іх характару і разумовыя здольнасці: *абаротлівы, багамольны, беспрытомны, забіты, прынцыповы, забыўчывы*; фізічныя, псіхічныя, і разумовыя якасці жывых істот: *здаровы, звяглівы, абжорлівы, худы, рухавы, хітры*; масць жывёлы: *гняды, вараны, буланы, пегі.*

Не спалучаюцца з адушаўлёнымі назоўнікамі адносныя прыметнікі, якія абазначаюць прымету прадмета праз адносіны гэтага прадмета: да асобы ці жывой істоты: *дзіцячы погляд, мацярынскі клопат*; да пэўнай сферы дзейнасці ці іншага прадмета і абстрактнага паняцця: *філасофскі, дамашні, вучнёўскі, рэлігійны, архітэктурны, геаграфічны*; да прызначэння для выканання дзеяння: *шліфа-*

*вальны, стругальны, землекапальны, службовы, пасудны*; да дзеяння: *вылічальны, друкавальны, купальны*; да матэрыялу або рэчыва, з якога зроблены прадмет: *драўляны, цукровы, каменны, суконны, цагляны*; да прыродна-кліматычных з'яў ці раслінасці: *абляцелы, абмялелы, абраселы, перадназальнічны, завялы*; да месца знаходжання прадмета ці часу яго існавання: *прышкольны, падлёдны, міжсезонны*; да меры, вагі і колькасці: *двухметровы, пяцітонны*.

У сучаснай беларускай мове парадыгма словазмянення прыметніка складаецца ў суме з дваццаці чатырох форм: васямнаццаці форм у адзіночным ліку (па шэсць склонавых форм для кожнага роду – мужчынскага, жаночага і ніякага) і шасці форм у множным ліку. Формы роду, ліку і склону прыметніка залежаць ад назоўніка, да якога ён дапасуецца, а значыць, пры змене формы назоўніка змяняецца і форма прыметніка: *вялікі горад, вялікая кніга, вялікае возера*; *у вялікім горадзе* (*кнізе, возеры*); *у вялікіх гарадах* (*кнігах, азёрах*). Поўную словазменную парадыгму маюць прыметнікі, якія спалучаюцца як з адушаўлёнымі, так і неадушаўлёнымі назоўнікамі ўсіх трох родаў, а таксама маюць формы адзіночнага і множнага ліку:

**ба́цькаў** (-ава), *Р* ба́цькавага (-ай/ае, -ага), *Д* ба́цькаваму (-ай, -аму), *В* ба́цькавага/аў (-у, -а), *Т* ба́цькавым (-ай/аю, -ым), *М* ба́цькавым (-ай, -ым; *Н* ба́цькавы, *РМ* ба́цькавых, *Д* ба́цькавым, *В* ба́цькавых/ы, *Т* ба́цькавымі

**вавёрчын** (-а), *Р* вавёрчынага (-ай/ае, -ага), *Д* вавёрчынаму (-ай, -аму), *В* вавёрчынага/ын (-у, -а), *Т* вавёрчыным (-ай/аю, -ым), *М* вавёрчыным (-ай, -ым); *мн. Н* вавёрчыны, *РМ* вавёрчыных, *Д* вавёрчыным, *В* вавёрчыных/ы, *Т* вавёрчынымі

**до́бры** (-ая, -ае), *Р* до́брага (-ай/ае, -ага), *Д* до́браму (-ай, -аму), *В* до́брага/ы (-ую, -ае), *Т* до́брым (-ай/аю, -ым), *М* до́брым (-ай, -ым); *мн. Н* до́брыя, *Р* до́брых, *Д* до́брым, *В* до́брых/ыя, *Т* до́брымі, *М* до́брых

**бе́лы** (-ая, -ае), *Р* бе́лага (-ай/ае, -ага), *Д* бе́ламу (-ай, -аму), *В* бе́лага/ы (-ую, -ае), *Т* бе́лым (-ай/аю, -ым), *М* бе́лым (-ай, -ым); *мн. Н* бе́лыя, *РМ* бе́лых, *Д* бе́лым, *В* бе́лых/ыя, *Т* бе́лымі

Няпоўную парадыгму словазмянення маюць прыметнікі, якія ўжываюцца ва ўстойлівых спалучэннях толькі з назоўнікамі пэўнага роду: *абетаваная зямля, аўгіевы стайні, ахілесава пята, сізіфава праца*:

**абетава́ны: абетава́ная зямля** *Р* абетава́най/ае, *ДТМ* абетава́най, *В* абетава́ную

**ахіле́савы: ахілесава пята** *Р* ахіле́савай/ае, *ДТМ* ахіле́савай, *В* ахіле́саву

**бала́нсны: бала́нсная схема** *Р* бала́нснай/ае, *ДТМ* бала́нснай, *В* бала́нсную; *мн. НВ* бала́нсныя, *РМ* бала́нсных, *Д* бала́нсным, *Т* бала́нснымі

**бальза́каўскі: бальза́каўскі ўзрост** *НВ* бальза́каўскі, *Р* бальза́каўскага, *Д* бальза́каўскаму, *ТМ* бальза́каўскім

Няпоўную парадыгму словазмянення маюць прыметнікі, якія спалучаюцца толькі з адушаўлёнымі назоўнікамі мужчынскага або жаночага роду:

**абраза́ны** (-ае) *Р* абраза́нага, *Д* абраза́наму, *В* абраза́нага (-ае), *ТМ* абраза́ным; *мн. Н* абраза́ныя, *РВМ* абраза́ных, *Д* абраза́ным, *Т* абраза́нымі

**аўдаве́лы** (-ая), *Р* аўдаве́лага (-ай/ае), *Д* аўдаве́ламу (-ай), *В* аўдаве́лага (-ую), *Т* аўдаве́лым (-ай/аю), *М* аўдаве́лым (-ай); *мн. Н* аўдаве́лыя, *РВМ* аўдаве́лых, *Д* аўдаве́лым, *Т* аўдаве́лымі

**цяжа́рная** *Р* цяжа́рнай/ае, *ДМ* цяжа́рнай, *В* цяжа́рную, *Т* цяжа́рнай/аю; *мн. Н* цяжа́рныя, *РВМ* цяжа́рных, *Д* цяжа́рным, *Т* цяжа́рнымі

**жарэ́бная: жарэ́бная** (*асліца, вярблюдзіца, кабыла*) *Р* жарэ́бнай/ае, *Д* жарэ́бнай, *В* жарэ́бную, *ТМ* жарэ́бнай; *мн. Н* жарэ́бныя, *РВМ* жарэ́бных, *Д* жарэ́бным, *Т* жарэ́бнымі

Няпоўную парадыгму словазмянення маюць прыметнікі, якія ўжываюцца толькі з адушаўлёнымі назоўнікамі:

**забы́ўчывы** (-ая, -ае), *Р* забы́ўчывага (-ай/ае, -ага), *Д* забы́ўчываму (-ай, -аму), *В* забы́ўчывага (-ую, -ае), *Т* забы́ўчывым (-ай/аю, -ым), *М* забы́ўчывым (-ай, -ым); *мн. Н* забы́ўчывыя, *РВМ* забы́ўчывых, *Д* забы́ўчывым, *Т* забы́ўчывымі

**абжо́рлівы** (-ая, -ае), *Р* абжо́рлівага (-ай/ае, -ага), *Д* абжо́рліваму (-ай, -аму), *В* абжо́рлівага (-ую, -ае), *Т* абжо́рлівым (-ай/аю, -ым), *М* абжо́рлівым (-ай, -ым); *мн. Н* абжо́рлівыя, *РВМ* абжо́рлівых, *Д* абжо́рлівым, *Т* абжо́рлівымі

**багамо́льны** (-ая, -ае), *Р* багамо́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* багамо́льнаму (-ай, -аму), *В* багамо́льнага (-ую, -ае), *Т* багамо́льным (-ай/аю, -ым), *М* багамо́льным (-ай, -ым); *мн. Н* багамо́льныя, *РВМ* багамо́льных, *Д* багамо́льным, *Т* багамо́льнымі

Няпоўную парадыгму словазмянення маюць прыметнікі, якія ўжываюцца з назоўнікамі са значэннем аб'ектаў прыроды:

**абляце́лы** (-ая, -ае), *Р* абляце́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абляце́ламу (-ай, -аму), *В* абляце́лы (-ую, -ае), *Т* абляце́лым (-ай/аю, -ым), *М* абляце́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* абляце́лыя, *РМ* абляце́лых, *Д* абляце́лым, *Т* абляце́лымі

**абмяле́лы** (-ая, -ае), *Р* абмяле́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абмяле́ламу (-ай, -аму), *В* абмяле́лы (-ую, -ае), *Т* абмяле́лым (-ай/аю, -ым), *М* абмяле́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* абмяле́лыя, *РМ* абмяле́лых, *Д* абмяле́лым, *Т* абмяле́лымі

**абрасе́лы** (-ая, -ае), *Р* абрасе́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абрасе́ламу (-ай, -аму), *В* абрасе́лы (-ую, -ае), *Т* абрасе́лым (-ай/аю, -ым), *М* абрасе́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* абрасе́лыя, *РМ* абрасе́лых, *Д* абрасе́лым, *Т* абрасе́лымі

**завя́лы** (-ая, -ае), *Р* завя́лага (-ай/ае, -ага), *Д* завя́ламу (-ай, -аму), *В* завя́лы (-ую, -ае), *Т* завя́лым (-ай/аю, -ым), *М* завя́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* завя́лыя, *РМ* завя́лых, *Д* завя́лым, *Т* завя́лымі

Пры выкарыстанні словазмяняльнай парадыгмы прыметнікаў трэба ўлічваць, што жывое маўленне, асабліва мастацкае, утрымлівае невычэрпныя магчымасці семантычнага шчаплення слоў, што адбіваецца на кантэкстуальнай семантыцы і формах словазмянення прыметнікаў.

**Аа́зісны** (-ая, -ае), *Р* аа́зіснага (-ай/ае, -ага), *Д* аа́зіснаму (-ай, -аму), *В* аа́зісны (-ую, -ае), *Т* аа́зісным (-ай/аю, -ым), *М* аа́зісным (-ай, -ым); *мн. НВ* аа́зісныя, *РМ* аа́зісных, *Д* аа́зісным, *Т* аа́зіснымі

**аа́наўскі** (-ая, -ае), *Р* аа́наўскага (-ай/ае, -ага), *Д* аа́наўскаму (-ай, -аму), *В* аа́наўскага/і (-ую, -ае), *Т* аа́наўскім (-ай/аю, -ім), *М* аа́наўскім (-ай, -ім); *мн. Н* аа́наўскія, *РМ* аа́наўскіх, *Д* аа́наўскім, *В* аа́наўскіх/ія, *Т* аа́наўскімі

**аарта́льны** (-ая, -ае), *Р* аарта́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* аарта́льнаму (-ай, -аму), *В* аарта́льны (-ую, -ае), *Т* аарта́льным (-ай/аю, -ым), *М* аарта́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* аарта́льныя, *РМ* аарта́льных, *Д* аарта́льным, *Т* аарта́льнымі

**абабі́ты*** (-ая, -ае), *Р* абабі́тага (-ай/ае, -ага), *Д* абабі́таму (-ай, -аму), *В* абабі́тага/ы (-ую, -ае), *Т* абабі́тым (-ай/аю, -ым), *М* абабі́тым (-ай, -ым); *мн. Н* абабі́тыя, *РМ* абабі́тых, *Д* абабі́тым, *В* абабі́тых/ыя, *Т* абабі́тымі

**абабра́ны*** (-ая, -ае), *Р* абабра́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абабра́наму (-ай, -аму), *В* абабра́нага/ы (-ую, -ае), *Т* абабра́ным (-ай/аю, -ым), *М* абабра́ным (-ай, -ым); *мн. Н* абабра́ныя, *РМ* абабра́ных, *Д* абабра́ным, *В* абабра́ных/ыя, *Т* абабра́нымі

**абавя́заны** (-ая, -ае), *Р* абавя́занага (-ай/ае, -ага), *Д* абавя́занаму (-ай, -аму), *В* абавя́занага (-ую, -ае), *Т* абавя́заным (-ай/аю, -ым), *М* абавя́заным (-ай, -ым); *мн. Н* абавя́заныя, *РВМ* абавя́заных, *Д* абавя́заным, *Т* абавя́занымі

**абавязко́вы** (-ая, -ае), *Р* абавязко́вага (-ай/ае, -ага), *Д* абавязко́ваму (-ай, -аму), *В* абавязко́вага/ы (-ую, -ае), *Т* абавязко́вым (-ай/аю, -ым), *М* абавязко́вым (-ай, -ым); *мн. Н* абавязко́выя, *РМ* абавязко́вых, *Д* абавязко́вым, *В* абавязко́вых/ыя, *Т* абавязко́вымі

**абагача́льны** (-ая, -ае), *Р* абагача́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абагача́льнаму (-ай, -аму), *В* абагача́льны (-ую, -ае), *Т* абагача́льным (-ай/аю, -ым), *М* абагача́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абагача́льныя, *РМ* абагача́льных, *Д* абагача́льным, *Т* абагача́льнымі

**абагна́ны*** (-ая, -ае), *Р* абагна́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абагна́наму (-ай, -аму), *В* абагна́ны (-ую, -ае), *Т* абагна́ным (-ай/аю, -ым), *М* абагна́ным (-ай, -ым); *мн. НВ* абагна́ныя, *РМ* абагна́ных, *Д* абагна́ным, *Т* абагна́нымі

**абагну́ты*** (-ая, -ае), *Р* абагну́тага (-ай/ае, -ага), *Д* абагну́таму (-ай, -аму), *В* абагну́ты (-ую, -ае), *Т* абагну́тым (-ай/аю, -ым), *М* абагну́тым (-ай, -ым); *мн. НВ* абагну́тыя, *РМ* абагну́тых, *Д* абагну́тым, *Т* абагну́тымі

**абаграва́льны** (-ая, -ае), *Р* абаграва́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абаграва́льнаму (-ай, -аму), *В* абаграва́льны (-ую, -ае), *Т* абаграва́льным (-ай/аю, -ым), *М* абаграва́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абаграва́льныя, *РМ* абаграва́льных, *Д* абаграва́льным, *Т* абаграва́льнымі

**абагрэ́ты*** (-ая, -ае), *Р* абагрэ́тага (-ай/ае, -ага), *Д* абагрэ́таму (-ай, -аму), *В* абагрэ́ты (-ую, -ае), *Т* абагрэ́тым (-ай/аю, -ым), *М* абагрэ́тым (-ай, -ым); *мн. НВ* абагрэ́тыя, *РМ* абагрэ́тых, *Д* абагрэ́тым, *Т* абагрэ́тымі

**абагу́лены*** (-ая, -ае), *Р* абагу́ленага (-ай/ае, -ага), *Д* абагу́ленаму (-ай, -аму), *В* абагу́лены (-ую, -ае), *Т* абагу́леным (-ай/аю, -ым), *М* абагу́леным (-ай, -ым); *мн. НВ* абагу́леныя, *РМ* абагу́леных, *Д* абагу́леным, *Т* абагу́ленымі

**абагу́льнена-сімвалі́чны** (-ая, -ае), *Р* абагу́льнена-сімвалі́чнага (-ай/ае, -ага), *Д* абагу́льнена-сімвалі́чнаму (-ай, -аму), *В* абагу́льнена-сімвалі́чны (-ую, -ае), *Т* абагу́льнена-сімвалі́чным (-ай/аю, -ым), *М* абагу́льнена-сімвалі́чным (-ай, -ым); *мн. НВ* абагу́льнена-сімвалі́чныя, *РМ* абагу́льнена-сімвалі́чных, *Д* абагу́льнена-сімвалі́чным, *Т* абагу́льнена-сімвалі́чнымі

**абагу́льнены*** (-ая, -ае), *Р* абагу́льненага (-ай/ае, -ага), *Д* абагу́льненаму (-ай, -аму), *В* абагу́льнены (-ую, -ае), *Т* абагу́льненым (-ай/аю, -ым), *М* абагу́льненым (-ай, -ым); *мн. НВ* абагу́льненыя, *РМ* абагу́льненых, *Д* абагу́льненым, *Т* абагу́льненымі

**абаджга́ны*** (-ая, -ае), *Р* абаджга́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абаджга́наму (-ай, -аму), *В* абаджга́нага (-ую, -ае), *Т* абаджга́ным (-ай/аю, -ым), *М* абаджга́ным (-ай, -ым); *мн. Н* абаджга́ныя, *РВМ* абаджга́ных, *Д* абаджга́ным, *Т* абаджга́нымі

**абадко́вы** (-ая, -ае), *Р* абадко́вага (-ай/ае, -ага), *Д* абадко́ваму (-ай, -аму), *В* абадко́вы (-ую, -ае), *Т* абадко́вым (-ай/аю, -ым), *М* абадко́вым (-ай, -ым); *мн. НВ* абадко́выя, *РМ* абадко́вых, *Д* абадко́вым, *Т* абадко́вымі

**абадо́чны** (-ая, -ае), *Р* абадо́чнага (-ай/ае, -ага), *Д* абадо́чнаму (-ай, -аму), *В* абадо́чны (-ую, -ае),

*Т* абадо́чным (-ай/аю, -ым), *М* абадо́чным (-ай, -ым); *мн. НВ* абадо́чныя, *РМ* абадо́чных, *Д* абадо́чным, *Т* абадо́чнымі

**абадра́ны*** (-ая, -ае), *Р* абадра́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абадра́наму (-ай, -аму), *В* абадра́нага/ы (-ую, -ае), *Т* абадра́ным (-ай/аю, -ым), *М* абадра́ным (-ай, -ым); *мн. Н* абадра́ныя, *РМ* абадра́ных, *Д* абадра́ным, *В* абадра́ных/ыя, *Т* абадра́нымі

**абажу́рны** (-ая, -ае), *Р* абажу́рнага (-ай/ае, -ага), *Д* абажу́рнаму (-ай, -аму), *В* абажу́рны (-ую, -ае), *Т* абажу́рным (-ай/аю, -ым), *М* абажу́рным (-ай, -ым); *мн. НВ* абажу́рныя, *РМ* абажу́рных, *Д* абажу́рным, *Т* абажу́рнымі

**абазва́ны*** (-ая, -ае), *Р* абазва́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абазва́наму (-ай, -аму), *В* абазва́ны (-ую, -ае), *Т* абазва́ным (-ай/аю, -ым), *М* абазва́ным (-ай, -ым); *мн. НВ* абазва́ныя, *РМ* абазва́ных, *Д* абазва́ным, *Т* абазва́нымі

**абаліцыяні́сцкі** (-ая, -ае), *Р* абаліцыяні́сцкага (-ай/ае, -ага), *Д* абаліцыяні́сцкаму (-ай, -аму), *В* абаліцыяні́сцкі (-ую, -ае), *Т* абаліцыяні́сцкім (-ай/аю, -ім), *М* абаліцыяні́сцкім (-ай, -ім); *мн. НВ* абаліцыяні́сцкія, *РМ* абаліцыяні́сцкіх, *Д* абаліцыяні́сцкім, *Т* абаліцыяні́сцкімі

**абало́ністы** (-ая, -ае), *Р* абало́ністага (-ай/ае, -ага), *Д* абало́ністаму (-ай, -аму), *В* абало́ністы (-ую, -ае), *Т* абало́ністым (-ай/аю, -ым), *М* абало́ністым (-ай, -ым); *мн. НВ* абало́ністыя, *РМ* абало́ністых, *Д* абало́ністым, *Т* абало́ністымі

**абало́нны** (-ая, -ае), *Р* абало́ннага (-ай/ае, -ага), *Д* абало́ннаму (-ай, -аму), *В* абало́нны (-ую, -ае), *Т* абало́нным (-ай/аю, -ым), *М* абало́нным (-ай, -ым); *мн. НВ* абало́нныя, *РМ* абало́нных, *Д* абало́нным, *Т* абало́ннымі

**абамле́лы** (-ая, -ае), *Р* абамле́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абамле́ламу (-ай, -аму), *В* абамле́лага/ы (-ую, -ае), *Т* абамле́лым (-ай/аю, -ым), *М* абамле́лым (-ай, -ым); *мн. Н* абамле́лыя, *РМ* абамле́лых, *Д* абамле́лым, *В* абамле́лых/ыя, *Т* абамле́лымі

**абамшэ́лы** (-ая, -ае), *Р* абамшэ́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абамшэ́ламу (-ай, -аму), *В* абамшэ́лы (-ую, -ае), *Т* абамшэ́лым (-ай/аю, -ым), *М* абамшэ́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* абамшэ́лыя, *РМ* абамшэ́лых, *Д* абамшэ́лым, *Т* абамшэ́лымі

**абанеме́нтны** (-ая, -ае), *Р* абанеме́нтнага (-ай/ае, -ага), *Д* абанеме́нтнаму (-ай, -аму), *В* абанеме́нтны (-ую, -ае), *Т* абанеме́нтным (-ай/аю, -ым), *М* абанеме́нтным (-ай, -ым); *мн. НВ* абанеме́нтныя, *РМ* абанеме́нтных, *Д* абанеме́нтным, *Т* абанеме́нтнымі

**абане́нтны** (-ая, -ае), *Р* абане́нтнага (-ай/ае, -ага), *Д* абане́нтнаму (-ай, -аму), *В* абане́нтны (-ую, -ае), *Т* абане́нтным (-ай/аю, -ым), *М* абане́нтным (-ай, -ым); *мн. НВ* абане́нтныя, *РМ* абане́нтных, *Д* абане́нтным, *Т* абане́нтнымі

**абане́нцкі** (-ая, -ае), *Р* абане́нцкага (-ай/ае, -ага), *Д* абане́нцкаму (-ай, -аму), *В* абане́нцкі (-ую, -ае), *Т* абане́нцкім (-ай/аю, -ім), *М* абане́нцкім (-ай, -ім); *мн. НВ* абане́нцкія, *РМ* абане́нцкіх, *Д* абане́нцкім, *Т* абане́нцкімі

**абапрэ́лы** (-ая, -ае), *Р* абапрэ́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абапрэ́ламу (-ай, -аму), *В* абапрэ́лага/ы (-ую, -ае), *Т* абапрэ́лым (-ай/аю, -ым), *М* абапрэ́лым (-ай, -ым); *мн. Н* абапрэ́лыя, *РМ* абапрэ́лых, *Д* абапрэ́лым, *В* абапрэ́лых/ыя, *Т* абапрэ́лымі

**абараназдо́льны** (-ая, -ае), *Р* абараназдо́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абараназдо́льнаму (-ай, -аму), *В* абараназдо́льнага/ы (-ую, -ае), *Т* абараназдо́льным (-ай/аю, -ым), *М* абараназдо́льным (-ай, -ым); *мн. Н* абараназдо́льныя, *РМ* абараназдо́льных, *Д* абараназдо́льным, *В* абараназдо́льных/ыя, *Т* абараназдо́льнымі

**абара́начны** (-ая, -ае), *Р* абара́начнага (-ай/ае, -ага), *Д* абара́начнаму (-ай, -аму), *В* абара́начны (-ую, -ае), *Т* абара́начным (-ай/аю, -ым), *М* абара́начным (-ай, -ым); *мн. НВ* абара́начныя, *РМ* абара́начных, *Д* абара́начным, *Т* абара́начнымі

**абара́ны*** (-ая, -ае), *Р* абара́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абара́наму (-ай, -аму), *В* абара́ны (-ую, -ае), *Т* абара́ным (-ай/аю, -ым), *М* абара́ным (-ай, -ым); *мн. НВ* абара́ныя, *РМ* абара́ных, *Д* абара́ным, *Т* абара́нымі

**абараня́льны** (-ая, -ае), *Р* абараня́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абараня́льнаму (-ай, -аму), *В* абараня́льны (-ую, -ае), *Т* абараня́льным (-ай/аю, -ым), *М* абараня́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абараня́льныя, *РМ* абараня́льных, *Д* абараня́льным, *Т* абараня́льнымі

**абарача́льны** (-ая, -ае), *Р* абарача́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абарача́льнаму (-ай, -аму), *В* абарача́льны (-ую, -ае), *Т* абарача́льным (-ай/аю, -ым), *М* абарача́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абарача́льныя, *РМ* абарача́льных, *Д* абарача́льным, *Т* абарача́льнымі

**абарва́ны*** (-ая, -ае), *Р* абарва́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абарва́наму (-ай, -аму), *В* абарва́нага/ы (-ую, -ае), *Т* абарва́ным (-ай/аю, -ым), *М* абарва́ным (-ай, -ым); *мн. Н* абарва́ныя, *РМ* абарва́ных, *Д* абарва́ным, *В* абарва́ных/ыя, *Т* абарва́нымі

**абарда́жны** (-ая, -ае), *Р* абарда́жнага (-ай/ае, -ага), *Д* абарда́жнаму (-ай, -аму), *В* абарда́жны (-ую, -ае), *Т* абарда́жным (-ай/аю, -ым), *М* абарда́жным (-ай, -ым); *мн. НВ* абарда́жныя, *РМ* абарда́жных, *Д* абарда́жным, *Т* абарда́жнымі

**абаро́нніцкі** (-ая, -ае), *Р* абаро́нніцкага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́нніцкаму (-ай, -аму), *В* абаро́нніцкі (-ую, -ае), *Т* абаро́нніцкім (-ай/аю, -ім), *М* абаро́нніцкім (-ай, -ім); *мн. НВ* абаро́нніцкія, *РМ* абаро́нніцкіх, *Д* абаро́нніцкім, *Т* абаро́нніцкімі

**абаро́нны** (-ая, -ае), *Р* абаро́ннага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́ннаму (-ай, -аму), *В* абаро́нны (-ую, -ае), *Т* абаро́нным (-ай/аю, -ым), *М* абаро́нным (-ай, -ым); *мн. НВ* абаро́нныя, *РМ* абаро́нных, *Д* абаро́нным, *Т* абаро́ннымі

**абаро́нча-ма́савы** (-ая, -ае), *Р* абаро́нча-ма́савага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́нча-ма́саваму (-ай, -аму), *В* абаро́нча-ма́савы (-ую, -ае), *Т* абаро́нча-ма́савым (-ай/аю, -ым), *М* абаро́нча-ма́савым (-ай, -ым); *мн. НВ* абаро́нча-ма́савыя, *РМ* абаро́нча-ма́савых, *Д* абаро́нча-маса́вым, *Т* абаро́нча-ма́савымі

**абаро́нчы** (-ая, -ае), *Р* абаро́нчага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́нчаму (-ай, -аму), *В* абаро́нчы (-ую, -ае), *Т* абаро́нчым (-ай/аю, -ым), *М* абаро́нчым (-ай, -ым); *мн. НВ* абаро́нчыя, *РМ* абаро́нчых, *Д* абаро́нчым, *Т* абаро́нчымі

**абаро́тлівы** (-ая, -ае), *Р* абаро́тлівага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́тліваму (-ай, -аму), *В* абаро́тлівага (-ую, -ае), *Т* абаро́тлівым (-ай/аю, -ым), *М* абаро́тлівым (-ай, -ым); *мн. Н* абаро́тлівыя, *РВМ* абаро́тлівых, *Д* абаро́тлівым, *Т* абаро́тлівымі

**абаро́тны** (-ая, -ае), *Р* абаро́тнага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́тнаму (-ай, -аму), *В* абаро́тны (-ую, -ае), *Т* абаро́тным (-ай/аю, -ым), *М* абаро́тным (-ай, -ым); *мн. НВ* абаро́тныя, *РМ* абаро́тных, *Д* абаро́тным, *Т* абаро́тнымі

**абаро́цісты** (-ая, -ае), *Р* абаро́цістага (-ай/ае, -ага), *Д* абаро́цістаму (-ай, -аму), *В* абаро́цістага (-ую, -ае), *Т* абаро́цістым (-ай/аю, -ым), *М* абаро́цістым (-ай, -ым); *мн. Н* абаро́цістыя, *РВМ* абаро́цістых, *Д* абаро́цістым, *Т* абаро́цістымі

**абарты́ўны** (-ая, -ае), *Р* абарты́ўнага (-ай/ае, -ага), *Д* абарты́ўнаму (-ай, -аму), *В* абарты́ўны (-ую, -ае), *Т* абарты́ўным (-ай/аю, -ым), *М* абарты́ўным (-ай, -ым); *мн. НВ* абарты́ўныя, *РМ* абарты́ўных, *Д* абарты́ўным, *Т* абарты́ўнымі

**абарыге́нны** (-ая, -ае), *Р* абарыге́ннага (-ай/ае, -ага), *Д* абарыге́ннаму (-ай, -аму), *В* абарыге́ннага/ы (-ую, -ае), *Т* абарыге́нным (-ай/аю, -ым), *М* абарыге́нным (-ай, -ым); *мн. Н* абарыге́нныя, *РМ* абарыге́нных, *Д* абарыге́нным, *В* абарыге́нных/ыя, *Т* абарыге́ннымі

**аба́цкі** (-ая, -ае), *Р* аба́цкага (-ай/ае, -ага), *Д* аба́цкаму (-ай, -аму), *В* аба́цкага/і (-ую, -ае), *Т* аба́цкім (-ай/аю, -ім), *М* аба́цкім (-ай, -ім); *мн. Н* аба́цкія, *РМ* аба́цкіх, *Д* аба́цкім, *В* аба́цкіх/ія, *Т* аба́цкімі

**аба́члівы** (-ая, -ае), *Р* аба́члівага (-ай/ае, -ага), *Д* аба́чліваму (-ай, -аму), *В* аба́члівага/ы (-ую, -ае), *Т* аба́члівым (-ай/аю, -ым), *М* аба́члівым (-ай, -ым); *мн. Н* аба́члівыя, *РМ* аба́члівых, *Д* аба́члівым, *В* аба́члівых/ыя, *Т* аба́члівымі

**абая́льны** (-ая, -ае), *Р* абая́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абая́льнаму (-ай, -аму), *В* абая́льнага/ы (-ую, -ае), *Т* абая́льным (-ай/аю, -ым), *М* абая́льным (-ай, -ым); *мн. Н* абая́льныя, *РМ* абая́льных, *Д* абая́льным, *В* абая́льных/ыя, *Т* абая́льнымі

**абвадня́льны** (-ая, -ае), *Р* абвадня́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абвадня́льнаму (-ай, -аму), *В* абвадня́льны (-ую, -ае), *Т* абвадня́льным (-ай/аю, -ым), *М* абвадня́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абвадня́льныя, *РМ* абвадня́льных, *Д* абвадня́льным, *Т* абвадня́льнымі

**абвалака́льны** (-ая, -ае), *Р* абвалака́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абвалака́льнаму (-ай, -аму), *В* абвалака́льны (-ую, -ае), *Т* абвалака́льным (-ай/аю, -ым), *М* абвалака́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абвалака́льныя, *РМ* абвалака́льных, *Д* абвалака́льным, *Т* абвалака́льнымі

**абва́лісты** (-ая, -ае), *Р* абва́лістага (-ай/ае, -ага), *Д* абва́лістаму (-ай, -аму), *В* абва́лісты (-ую, -ае), *Т* абва́лістым (-ай/аю, -ым), *М* абва́лістым (-ай, -ым); *мн. НВ* абва́лістыя, *РМ* абва́лістых, *Д* абва́лістым, *Т* абва́лістымі

**абва́льны** (-ая, -ае), *Р* абва́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абва́льнаму (-ай, -аму), *В* абва́льны (-ую, -ае), *Т* абва́льным (-ай/аю, -ым), *М* абва́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абва́льныя, *РМ* абва́льных, *Д* абва́льным, *Т* абва́льнымі

**абва́раны*** (-ая, -ае), *Р* абва́ранага (-ай/ае, -ага), *Д* абва́ранаму (-ай, -аму), *В* абва́раны (-ую, -ае), *Т* абва́раным (-ай/аю, -ым), *М* абва́раным (-ай, -ым); *мн. НВ* абва́раныя, *РМ* абва́раных, *Д* абва́раным, *Т* абва́ранымі

**абве́дзены*** (-ая, -ае), *Р* абве́дзенага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́дзенаму (-ай, -аму), *В* абве́дзены (-ую, -ае), *Т* абве́дзеным (-ай/аю, -ым), *М* абве́дзеным (-ай, -ым); *мн. НВ* абве́дзеныя, *РМ* абве́дзеных, *Д* абве́дзеным, *Т* абве́дзенымі

**абве́зены*** (-ая, -ае), *Р* абве́зенага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́зенаму (-ай, -аму), *В* абве́зены (-ую, -ае), *Т* абве́зеным (-ай/аю, -ым), *М* абве́зеным (-ай, -ым); *мн. НВ* абве́зеныя, *РМ* абве́зеных, *Д* абве́зеным, *Т* абве́зенымі

**абве́сны: абве́сны лад** *Р* абве́снага, *Д* абве́снаму, *В* абве́сны, *ТМ* абве́сным

**абве́тралы** (-ая, -ае), *Р* абве́тралага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́траламу (-ай, -аму), *В* абве́тралы (-ую, -ае), *Т* абве́тралым (-ай/аю, -ым), *М* абве́тралым (-ай, -ым); *мн. НВ* абве́тралыя, *РМ* абве́тралых, *Д* абве́тралым, *Т* абве́тралымі

**абве́траны*** (-ая, -ае), *Р* абве́транага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́транаму (-ай, -аму), *В* абве́траны (-ую, -ае), *Т* абве́траным (-ай/аю, -ым), *М* абве́траным (-ай, -ым); *мн. НВ* абве́траныя, *РМ* абве́траных, *Д* абве́траным, *Т* абве́транымі

**абве́шаны*** (-ая, -ае), *Р* абве́шанага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́шанаму (-ай, -аму), *В* абве́шаны (-ую, -ае), *Т* абве́шаным (-ай/аю, -ым), *М* абве́шаным (-ай,

-ым); *мн. НВ* абве́шаныя, *РМ* абве́шаных, *Д* абве́шаным, *Т* абве́шанымі

**абве́яны*** (-ая, -ае), *Р* абве́янага (-ай/ае, -ага), *Д* абве́янаму (-ай, -аму), *В* абве́яны (-ую, -ае), *Т* абве́яным (-ай/аю, -ым), *М* абве́яным (-ай, -ым); *мн. НВ* абве́яныя, *РМ* абве́яных, *Д* абве́яным, *Т* абве́янымі

**абвінава́ўчы** (-ая, -ае), *Р* абвінава́ўчага (-ай/ае, -ага), *Д* абвінава́ўчаму (-ай, -аму), *В* абвінава́ўчы (-ую, -ае), *Т* абвінава́ўчым (-ай/аю, -ым), *М* абвінава́ўчым (-ай, -ым); *мн. НВ* абвінава́ўчыя, *РМ* абвінава́ўчых, *Д* абвінава́ўчым, *Т* абвінава́ўчымі

***абвінава́чаны*** (-ая, -ае), *Р* абвінава́чанага (-ай/ае, -ага), *Д* абвінава́чанаму (-ай, -аму), *В* абвінава́чанага (-ую, -ае), *Т* абвінава́чаным (-ай/аю, -ым), *М* абвінава́чаным (-ай, -ым); *мн. Н* абвінава́чаныя, *РВМ* абвінава́чаных, *Д* абвінава́чаным, *Т* абвінава́чанымі

**абві́слы** (-ая, -ае), *Р* абві́слага (-ай/ае, -ага), *Д* абві́сламу (-ай, -аму), *В* абві́слы (-ую, -ае), *Т* абві́слым (-ай/аю, -ым), *М* абві́слым (-ай, -ым); *мн. НВ* абві́слыя, *РМ* абві́слых, *Д* абві́слым, *Т* абві́слымі

**абво́дны** (-ая, -ае), *Р* абво́днага (-ай/ае, -ага), *Д* абво́днаму (-ай, -аму), *В* абво́дны (-ую, -ае), *Т* абво́дным (-ай/аю, -ым), *М* абво́дным (-ай, -ым); *мн. НВ* абво́дныя, *РМ* абво́дных, *Д* абво́дным, *Т* абво́днымі

**абво́страны*** (-ая, -ае), *Р* абво́странага (-ай/ае, -ага), *Д* абво́странаму (-ай, -аму), *В* абво́страны (-ую, -ае), *Т* абво́страным (-ай/аю, -ым), *М* абво́страным (-ай, -ым); *мн. НВ* абво́страныя, *РМ* абво́страных, *Д* абво́страным, *Т* абво́странымі

**абву́глены*** (-ая, -ае), *Р* абву́гленага (-ай/ае, -ага), *Д* абву́гленаму (-ай, -аму), *В* абву́глены (-ую, -ае), *Т* абву́гленым (-ай/аю, -ым), *М* абву́гленым (-ай, -ым); *мн. НВ* абву́гленыя, *РМ* абву́гленых, *Д* абву́гленым, *Т* абву́гленымі

**абвы́клы** (-ая, -ае), *Р* абвы́клага (-ай/ае, -ага), *Д* абвы́кламу (-ай, -аму), *В* абвы́клага/ы (-ую, -ае), *Т* абвы́клым (-ай/аю, -ым), *М* абвы́клым (-ай, -ым); *мн. Н* абвы́клыя, *РМ* абвы́клых, *Д* абвы́клым, *В* абвы́клых/ыя, *Т* абвы́клымі

**абвя́заны** (-ая, -ае), *Р* абвя́занага (-ай/ае, -ага), *Д* абвя́занаму (-ай, -аму), *В* абвя́заны (-ую, -ае), *Т* абвя́заным (-ай/аю, -ым), *М* абвя́заным (-ай, -ым); *мн. НВ* абвя́заныя, *РМ* абвя́заных, *Д* абвя́заным, *Т* абвя́занымі

**абвя́зачны** (-ая, -ае), *Р* абвя́зачнага (-ай/ае, -ага), *Д* абвя́зачнаму (-ай, -аму), *В* абвя́зачны (-ую, -ае), *Т* абвя́зачным (-ай/аю, -ым), *М* абвя́зачным (-ай, -ым); *мн. НВ* абвя́зачныя, *РМ* абвя́зачных, *Д* абвя́зачным, *Т* абвя́зачнымі

**абвя́лы** (-ая, -ае), *Р* абвя́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абвя́ламу (-ай, -аму), *В* абвя́лага/ы (-ую, -ае), *Т* абвя́лым (-ай/аю, -ым), *М* абвя́лым (-ай, -ым); *мн. Н* абвя́лыя, *РМ* абвя́лых, *Д* абвя́лым, *В* абвя́лых/ыя, *Т* абвя́лымі

**абвярга́льны** (-ая, -ае), *Р* абвярга́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абвярга́льнаму (-ай, -аму), *В* абвярга́льны (-ую, -ае), *Т* абвярга́льным (-ай/аю, -ым), *М* абвярга́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абвярга́льныя, *РМ* абвярга́льных, *Д* абвярга́льным, *Т* абвярга́льнымі

**абганя́льны** (-ая, -ае), *Р* абганя́льнага (-ай/ае, -ага), *Д* абганя́льнаму (-ай, -аму), *В* абганя́льны (-ую, -ае), *Т* абганя́льным (-ай/аю, -ым), *М* абганя́льным (-ай, -ым); *мн. НВ* абганя́льныя, *РМ* абганя́льных, *Д* абганя́льным, *Т* абганя́льнымі

**абгарэ́лы** (-ая, -ае), *Р* абгарэ́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абгарэ́ламу (-ай, -аму), *В* абгарэ́лага/ы (-ую, -ае), *Т* абгарэ́лым (-ай/аю, -ым), *М* абгарэ́лым (-ай, -ым); *мн. Н* абгарэ́лыя, *РМ* абгарэ́лых, *Д* абгарэ́лым, *В* абгарэ́лых/ыя, *Т* абгарэ́лымі

**абгні́лы** (-ая, -ае), *Р* абгні́лага (-ай/ае, -ага), *Д* абгні́ламу (-ай, -аму), *В* абгні́лы (-ую, -ае), *Т* абгні́лым (-ай/аю, -ым), *М* абгні́лым (-ай, -ым); *мн. НВ* абгні́лыя, *РМ* абгні́лых, *Д* абгні́лым, *Т* абгні́лымі

**абго́нны** (-ая, -ае), *Р* абго́ннага (-ай/ае, -ага), *Д* абго́ннаму (-ай, -аму), *В* абго́нны (-ую, -ае), *Т* абго́нным (-ай/аю, -ым), *М* абго́нным (-ай, -ым); *мн. НВ* абго́нныя, *РМ* абго́нных, *Д* абго́нным, *Т* абго́ннымі

**абго́ртачны** (-ая, -ае), *Р* абго́ртачнага (-ай/ае, -ага), *Д* абго́ртачнаму (-ай, -аму), *В* абго́ртачны (-ую, -ае), *Т* абго́ртачным (-ай/аю, -ым), *М* абго́ртачным (-ай, -ым); *мн. НВ* абго́ртачныя, *РМ* абго́ртачных, *Д* абго́ртачным, *Т* абго́ртачнымі

**абгрунтава́ны*** (-ая, -ае), *Р* абгрунтава́нага (-ай/ае, -ага), *Д* абгрунтава́наму (-ай, -аму), *В* абгрунтава́ны (-ую, -ае), *Т* абгрунтава́ным (-ай/аю, -ым), *М* абгрунтава́ным (-ай, -ым); *мн. НВ* абгрунтава́ныя, *РМ* абгрунтава́ных, *Д* абгрунтава́ным, *Т* абгрунтава́нымі

**абдзёрты*** (-ая, -ае), *Р* абдзёртага (-ай/ае, -ага), *Д* абдзёртаму (-ай, -аму), *В* абдзёртага/ы (-ую, -ае), *Т* абдзёртым (-ай/аю, -ым), *М* абдзёртым (-ай, -ым); *мн. Н* абдзёртыя, *РМ* абдзёртых, *Д* абдзёртым, *В* абдзёртых/ыя, *Т* абдзёртымі

**абдзі́рачны** (-ая, -ае), *Р* абдзі́рачнага (-ай/ае, -ага), *Д* абдзі́рачнаму (-ай, -аму), *В* абдзі́рачны (-ую, -ае), *Т* абдзі́рачным (-ай/аю, -ым), *М* абдзі́рачным (-ай, -ым); *мн. НВ* абдзі́рачныя, *РМ* абдзі́рачных, *Д* абдзі́рачным, *Т* абдзі́рачнымі

**абду́маны** (-ая, -ае), *Р* абду́манага (-ай/ае, -ага), *Д* абду́манаму (-ай, -аму), *В* абду́маны (-ую, -ае), *Т* абду́маным (-ай/аю, -ым), *М* абду́маным (-ай, -ым); *мн. НВ* абду́маныя, *РМ* абду́маных, *Д* абду́маным, *Т* абду́манымі

